

# ДОБРЫ ВЕЧАР

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995
СТУДЗЕНЬ
16
ПАНЯДЗЕЛАК
№ 9/ 937
Цана
60 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ

### УКАЗ
### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
### НУМАР 11

**Аб назначэнні У.В.Ярмошына старшынёй Мінскага гарадского выканаўчага камітэта**

Назначыць Ярмошына Уладзіміра Васільевіча старшынёй Мінскага гарадского выканаўчага камітэта.

Унесці кандыдатуру У.В.Ярмошына на зацвярджэнне Мінскага гарадского Савета дэпутатаў.

Указ уступае ў сілу з дня падпісання.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка.
10 студзеня 1995 г.
г.Мінск.

### «КАЎКАЗСКІ» СЛЕД?

Сталі вядомымі новыя падрабязнасці следства па справе аб нападзенні ў час перадвыбарнай прэзідэнцкай кампаніі ў Беларусі на аўтамашыну, у якой ехаў цяперашні Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка.

Кіраўнік справамі прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Ціцянкоў, адзін з удзельнікаў гэтага інцыдэнту, у інтэрв'ю маладзёжнай газеце «Чырвоная змена» ад 12 студзеня паведаміў: «Зараз гэтым пытаннем займаюцца органы Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Ёсць папярэднія сведчанні, што гэта было запланаванае наёмнае нападзенне з дапамогай асоб так званай «каўказскай» нацыянальнасці». У прэс-службе КДБ адмовіліся пакуль пацвердзіць або абвергнуць гэтую інфармацыю, спасылаючыся на тое, што следства пакуль не завершана.

Павел МЯГКОЎ.

### ДОЛЛАР ПОТЕРПЕЛ, НО ОСТАЛСЯ ДОЛЛАРОМ

Министерством торговли и Национальным банком проведено изучение порядка реализации гражданам товаров, работ и услуг за иностранную валюту, установленным распоряжением Нацбанка от 20 декабря 1994 года № 289 «О продлении разрешения Национального банка Республики Беларусь на розничную торговлю и оказание услуг гражданам за иностранную валюту» на примере объектов торговли города Минска.

В частности, отмечено, что с переходом на торговлю за рубли обьем продаж за первые дни января 1995 года снизился по объектам торговли до 50 процентов. Потеря покупателей объясняется трудностями, связанными с обменом валюты из-за недостаточно развитой сети обменных пунктов, несоответствием их режима работы с режимом работы торговых объектов, а также нехваткой наличных расчетных билетов Национального банка для обмена на иностранную валюту.

Вместе с тем отмечено, что Министерством торговли проведены необходимые работы по организации для сведения покупателей печатной и световой информации о курсе валют на объектах торговли, сохранении ранее действовавшего порядка расчетов в инвалюте за товары по кредитным карточкам. В соответствии с указанием Национального банка соотношение валютных и рублевых цен устанавливается каждым предприятием самостоятельно, а обозначение цены валютного товара отражается, как и ранее, в иностранной валюте.

Сергей РАСОЛЬКО.

### «ЗАЙЧИК» ЕЩЕ «ПОПРЫГАЕТ»

В последнее время в Минске прошел слух об изьятии из обращения расчетных билетов Национального банка Республики Беларусь малого достоинства, в частности, «белочек», «зайчиков», «бобров», которое якобы должно произойти 16 января.

Как сообщили в управлении эмиссионно-контрольных операций Национального банка, никаких изьятий денежных купюр на 16 января не намечается. Правда, отметили специалисты, существует распоряжение Нацбанка о невыпуске в дальнейшее обращение с 1 января банками страны расчетных билетов малого достоинства. Постепенно денежная мелочь будет изыматься из обращения; но до полного их изьятия объекты торговли по-прежнему обязаны осуществлять за них все необходимые расчеты.

Сергей РАСОЛЬКО.



### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 16 января 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США покупка | Доллар США продажа | Немецкая марка покупка | Немецкая марка продажа | Российский рубль покупка | Российский рубль продажа |
|---|---|---|---|---|---|---|
| КОМПЛЕКС | 11340* | 11700 | 7276* | 7607 | 2.55 | 2.85 |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11500* | 11750 | 7480* | 7645 | 2.4 | 2.8 |
| БЕЛАРУСБАНК | 11680 11700** | 12120* | 7538 7597** | --- | 2.76* | 3.09* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11500* | 11900* | 7400* | 7750* | 2.6 | 3 |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11400* | 11700 | 7320* | 7570 | 2.65 | 2.8 |
| ПРОФБАНК | 11500 | 11850 | 7250 | 7600 | 2.6 | 3 |
| СБЕРБАНК | 11550 | 11850 | 7400 | 7650 | 2.6 | 2.75 |
| ОЛИМП | 11505 11551** | 11745 11896** | 7338 7365** | 7642 7740** | 2.75 2.86** | 2.9 3** |
| ДУКАТ | 11350* | 11700 | 7200* | 7600 | 2.6 | 3 |
| финансовая компания СОЛИД | 11350 | 11650 | 7250 | 7450 | 2.7 | 2.85 |
| МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 11400 | 11720 | 7200 | 7550 | 2.45 | 2.95 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | 11300 | 11750 | 7000 | 7450 | --- | --- |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор.упр.) | 11500 | 11800 | 7300 | 7500 | 2.6 | 2.8 |
| ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 11500 | 11800 | 7400 | 7650 | 2.6 | 3 |
| ПОИСК | 11450 | 11750 | 7100 | 7600 | 2.7 | 2.9 |
| Филиал N 1 банка "ОЛИМП" | 11600 11716** | 11800* | 7300 7373** | 7600 | --- | --- |
| ЕВРОПЕЙСКИЙ | 11400 11650** | 11750 11800** | 7300 7550** | 7650* | 2.7 2.85** | 2.9 3** |
| ТРАНЗИТНЫЙ | 11380 11620** | 11700 12000** | 7300 7400** | 7600 7800** | 2.55 | 3 |
| БЕЛБАЛТИЯ | 11400 | 11850 | 7300 | 7650 | 2.65 | 2.9 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| МАГНАТБАНК, ф-л 001 | 11000* | 11650* | 7050* | 7400* | 2.65 | 2.85* |
| ГУБИСС-РЕСУРС (за рос.руб.) | 11300 | 11700 | 6900 | 7590 | 2.6 | 3 |
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б/н расчетов) | * 11720.00 | | 7625.24 | | 3 | |

* -- возможна операция за наличный и безналичный расчет

** -- операция проводится только по безналичному расчету

**В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.**

**Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".**

### КОРОТКО

В связи с повышением тарифов на услуги городского пассажирского транспорта производственным управлением пассажирского транспорта и связи Мингорисполкома установлены новые цены на проездные билеты.

Так, проездной на один вид транспорта (любой) будет стоить 35 тысяч рублей, на два вида — 45 тысяч, на три — 55 тысяч, на четыре вида — 60 тысяч рублей.

Кроме того, по-прежнему сохраняется одинаковая цена на проездные билеты как для граждан, так и для предприятий, которые могут заказывать их для своих работников непосредственно в управлении транспорта и связи Мингорисполкома.

* * *

*При Министерстве иностранных дел Беларуси аккредитовано 47 корреспондентов иностранных средств массовой информации.*

*Журналисты являются представителями иностранных агентств, радио, телевидения, газет и журналов и аккредитованы при МИД Беларуси как представители средств массовой информации России, Латвии, ФРГ, США, Франции, Польши, Англии и Китая.*

* * *

Министерством обороны Беларуси принято решение об объединении Минских военного командного и инженерного училищ. Объединенный вуз планируется разместить на базе МВВИУ. Однако, как стало известно корреспонденту агентства РИД, такое решение руководства военного ведомства пришлось по душе не всем офицерам и преподавателям вышеупомянутых вузов.

* * *

*Свыше половины слушателей факультета повышения квалификации Белорусской сельскохозяйственной академии с недавнего времени начали заниматься на «хорошо» и «отлично».*

*Причиной резкого повышения успеваемости стал приказ Министерства сельского хозяйства: отличникам по месту их работы гарантируется продвижение по службе, 20–процентная надбавка к должностному окладу и другие материальные льготы.*

* * *

Славянскі Сабор «Белая Русь» выступіў з заявай, у якой выказана «шкадаванне з нагоды далучэння Беларусі да праграмы НАТО».

На думку прадстаўнікоў Славянскага Сабора, гэта можа выклікаць пагаршэнне адносін з «брацкай Расійскай Федэрацыяй».

### БЕЛАРУСЫ ДЛЯ ЧАЧЭНСКАЙ «МЯСАРУБКІ»?

Інфармацыя аб тым, што міністэрствы абароны і ўнутраных спраў Расіі праводзяць на тэрыторыі Беларусі нелегальную вярбоўку грамадзян рэспублікі для ўдзелу на баку расійскіх Узброеных Сіл у ваенных дзеяннях супраць прыхільнікаў Джахара Дудаева ў Чачні, пакуль толькі на ўзроўні чутак. Пра гэта карэспандэнту БелаПАНа паведамілі ў прэс-службе Камітэта дзяржаўнай бяспекі рэспублікі. Цяпер беларускія спецслужбы займаюцца праверкай гэтай інфармацыі і пакуль не маюць канкрэтных фактаў, якія пацвярджаюць ці абвяргаюць яе сапраўднасць.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ.

### ЗДАРЭННЕ

### УКРАДЗЕНЫ ПАСОЛЬСКІ «МЕРСЕДЭС»

У Фрунзенскі райаддзел міліцыі сталіцы звярнуўся за дапамогай шафёр пасольства Індыі ў Рэспубліцы Беларусь. Пакінуў ён на нейкі час каля магазіна «Тэхніка ў быце» службовы «Мерседэс-Бэнц», вярнуўся — аўтамабіля і след прастыў. Аператыўнікі пачалі пошук.

Уладзімір СТРЭЛЬСКІ.

### ИЗВЕЩЕНИЕ

Ленинским РОВД г.Минска разыскивается без вести пропавший Грабик Александр Олегович, 1968 года рождения, проживающий по адресу: г.Минск, пр-т Рокоссовского, д.12, корп.1, кв. 272. 2 декабря 1994 года ушел на работу и до настоящего времени его местонахождение неизвестно.

Приметы: на вид 26 лет, рост 180 см, спортивного телосложения, лицо бледное, волосы черного цвета, короткие, зачесаны назад.

Был одет в удлиненный плащ светло-бежевого цвета, темно-коричневый костюм, светлую рубашку в мелкую коричневую полоску, коричневого цвета галстук, на ногах черные сапоги.

Просим граждан, видевших или знающих что-либо о судьбе разыскиваемого, сообщить по телефонам:

49-92-49, 49-63-49, 49-02-02 или 02.

НА ДЗЯРЖАЎНЫМ АЛІМПЕ

## БЮДЖЭТ: ЛІЧЫЦЬ — І НІЯКІХ ВЫКРУТАСАЎ!

Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, «ДВ».

Чарговы парламенцкі тыдзень завяршыўся на тым, што дэпутаты, стаміўшыся ад абмеркавання бюджэту, у які раз адклалі яго прыняцце. Хоць, здавалася, да зацвярджэння — рукой падаць: усе артыкулы і папраўкі разгледжаны і прыняты. Аднак галасаванне засведчыла: не горнецца ў парламентарыяў усё ж душа да прапанаванага Кабінетам міністраў фарміравання дзяржаўнай казны. За распрацаваны фінансавы законапраект прагаласавала ўсяго 156 дэпутатаў, а пры паўторным галасаванні — і таго менш, 147.

Прэм'ер-міністр, закідваючы слова за сваё дзецішча, урэшце не стрымаўся і кінуў каменьчык у агарод дэпутатаў: зразумелая, маўляў, рэч, вы проста не жадаеце прымаць бюджэт — і больш нічога!

Але, назіраючы за дэбатамі ў Авальнай зале, няцяжка зрабіць іншую выснову. Прымаць бюджэт дэпутаты ўсё ж намераны, але найперш яны жадаюць як след разабрацца: адкуль і колькі грошай паступае ў дзяржказну, на якія патрэбы і ў якіх памерах яны будуць расходавацца. Так, каменем спатыкнення стаў шосты артыкул, што тычыцца расходаў бюджэту. Напрыклад, урад вырашыў, што на ахову нашага з вамі, шаноўныя чытачы, здароўя дастаткова 970 мільярдаў рублёў (курам на смех!). І гэта ў дзяржаве, жыхары якой пакутуюць ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы! Зноў сумнавядомыя датацыйныя прынцыпы — зноў мізэр на медыцыну, навуку і ахову здароўя. Як кажуць, няма слоў. І само сабой, што дэпутаты паставілі пытанне рубам: урад проста абавязаны знайсці дадатковыя крыніцы фінансавання аховы здароўя нацыі.

Крыніцы адшукаліся: бюджэтныя асігнаванні на медыцыну складуць у бягучым годзе адзін трыльён сорак пяць мільярдаў рублёў.

Падтрымалі парламентарыі і сваіх калег-аграрыяў А.Апацкага, У.Дражына, іншых, якія, настойваючы на дапамозе сельскай гаспадарцы, прапанавалі ўвесці аднапрацэнтны збор з абароту.

А ўвогуле, спецыялісты лічаць, што бюджэт гэтага года будзе не менш напружаным, чым леташні. Яго дэфіцыт зацверджаны ў памеры чатырох працэнтаў ад валавога прадукту. Экспертамі ўжо зараз прагназуецца далейшае раскручванне інфляцыі. Натуральна, што дэпутаты выказалі шэраг крытычных заўваг у адрас законапраекта і пажадалі дэталёва разабрацца з ім, каб канчаткова расставіць усе кропкі над «і». З якой ласкі, напрыклад, здзіўляліся яны, такія вялікія асігнаванні на фінансаванне Міністэрства фінансаў? Чым яно лепш за іншыя? Не маглі парламентарыі дабраць і розуму, чаму такія, а не іншыя грошы запатрабаваліся на ўтрыманне Адміністрацыі Прэзідэнта і Савета Міністраў?

Якім будзе дакумент у канчатковым выглядзе — мы даведаемся праз колькі дзён. Як вядома, пленарныя пасяджэнні 16-й сесіі аднаўляюцца заўтра, 17 студзеня.

А вось закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі, што рэгламентуе іх правы і абавязкі, парадак рэгістрацыі і распаўсюджвання перыядычных выданняў, адказнасць за парушэнне закона, мы з вамі, шаноўныя чытачы, на мінулым тыдні, нарэшце, займелі. Варта зазначыць, што многія яго артыкулы прымаліся на дзіва аднадушна. На дапрацоўку законапраект быў вернуты з нагоды спрэчак вакол шостага артыкула. Прыхільнікі нацыянальнага адраджэння цвёрда настойвалі на тым, каб у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі выкарыстоўвалася толькі дзяржаўная мова. Значная частка залы разважала інакш: чаму, уласна кажучы, для дзяржаўных спраў не падыходзіць іншая мова?

І быццам гара з плячэй звалілася ў дэпутатаў, калі свой варыянт рэдакцыі артыкула прапанавалі В.Кузняцоў і Д.Булахаў — дазволіць дзяржаўным выданням карыстацца як дзяржаўнай мовай, так і іншымі мовамі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і дзеючым заканадаўствам. Далей ўсё пайшло, як па масле: дэпутаты не вагаліся і прагаласавалі за такі падыход. Шчыра кажучы, наіўна было б чакаць іншага рашэння: вядома, што многія з тых, хто засядае сёння ў парламенцкай зале, ні ў грош не ставяць роднае слова.

Не прайшла і прапанова парламенцкай апазіцыі аб абмежаванні манаполіі дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі і забароне міністэрствам і ведамствам выступаць у ролі заснавальнікаў СМІ. Як ні пераконваў прысутных у важнасці такога рашэння Сяргей Навумчык, большасць не падтрымала яго.

Розныя думкі лунаюць з нагоды толькі што зацверджанага журналісцкага закона. На думку адных — ён паспрыяе працаўнікам пяра ў працы, на думку другіх — дапаможа ўладным людзям трымаць прэсу ў цуглях. Пажывём — пабачым.

ДЫПЛАМАТЫЯ

## БЕЛАРУСЬ ДАЛУЧЫЛАСЯ ДА НАТАЎСКАЙ ПРАГРАМЫ

Рэспубліка Беларусь стала 24-й краінай, якая далучылася да натаўскай праграмы «Партнёрства дзеля міру». 11 студзеня ў штаб-кватэры НАТО ў Бруселі рамачны дакумент праграмы падпісаў міністр замежных спраў нашай рэспублікі Уладзімір Сянько.

Перад цырымоніяй падпісання ПДМ У.Сянько сустрэўся з генеральным сакратаром НАТО В.Класам. У ходзе гутаркі бакі абмяняліся думкамі аб развіцці міжнароднай сітуацыі, становішчы ў краінах СНД і Рэспубліцы Беларусь у прыватнасці. В.Клас выказаў глыбокае задавальненне тым, што новае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь прыняло рашэнне аб далучэнні да праграмы ПДМ і тым самым праявіла намер унесці свой уклад у будаўніцтва новай архітэктуры агульнаеўрапейскай бяспекі. На яго думку, наступным крокам павінна быць распрацоўка індывідуальнай праграмы паміж Беларуссю і НАТО, канкрэтны змест якой можа быць вызначаны ў ходзе далейшага перагаворнага працэсу.

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі праінфармаваў В.Класа аб унутрыпалітычнай сітуацыі ў рэспубліцы, расказаў аб мерах, якія прымае кіраўніцтва краіны па рэфармаванню эканомікі і дэмакратызацыі грамадства. Ён выказаў думку, што падпісанне Беларуссю рамачнага дакумента ПДМ з'яўляецца важным крокам на шляху паслядоўнай інтэграцыі краіны ў Еўрапейскае супольніцтва. Паводле яго слоў, асноўнымі накірункамі супрацоўніцтва рэспублікі з НАТО на пачатковым этапе маглі быць: абмен інфармацыяй, узаемныя рэгулярныя кансультацыі па пытаннях бяспекі, прыцягненне новых тэхналогій у галінах канверсіі, экалогіі і скарачэння ўзбраенняў.

У гэты ж дзень У.Сянько правёў сустрэчу з першым намеснікам дзяржсакратара ЗША С.Тэлбатам, у якой прынялі ўдзел пасол па асобых даручэннях Дж.Колінз, які курыруе пытанні адносін з краінамі СНД, а таксама кіраўнікі амерыканскай місіі пры НАТО. С.Тэлбат падкрэсліў важнасць далучэння Беларусі да ПДМ з пункту гледжання сістэмы агульнаеўрапейскай бяспекі. У ходзе гутаркі таксама былі закрануты пытанні, якія маюць істотнае значэнне для двухбаковага супрацоўніцтва Беларусі і ЗША. У прыватнасці, У.Сянько выказаў просьбу паскорыць працэс стварэння беларуска-амерыканскага цэнтра па развіццю бізнесу, актывізаваць аказанне дапамогі Беларусі ў рамках закона Нана-Лугара, аказаць падтрымку рэспубліцы ў яе намаганнях гарманізацыі адносін з Міжнародным валютным фондам. Была таксама выказана зацікаўленасць Беларусі ў хутчэйшым заключэнні двухбаковага пагаднення аб узаемным аказанні прававой дапамогі па грамадзянскіх, крымінальных і сямейных справах.

БЕЛІНФАРМ.

## МЗС ЛІТВЫ ВІТАЕ РАШЭННЕ БЕЛАРУСІ

Міністэрства замежных спраў Літоўскай Рэспублікі зрабіла заяву, у якой гаворыцца, што Літва вітае далучэнне Беларусі да праграмы НАТО «Партнёрства дзеля міру». У заяве выказваецца надзея, што гэты крок Беларусі ўнясе лепту ў стварэнне ў ёй дэмакратычнага грамадства, дапаможа рэспубліцы развіваць дэмакратычны кантроль над узброенымі сіламі, будзе спрыяць супрацоўніцтву з іншымі дзяржавамі Еўропы ў галіне падтрымання міру.

Літва як актыўная ўдзельніца праграмы «Партнёрства дзеля міру», адзначаецца ў заяве, выказвае зацікаўленасць у расшырэнні сувязей з Беларуссю ў рамках гэтай праграмы.

БЕЛІНФАРМ.

ВЫСТАЎКІ

Звыш дзвюх тысяч экспанатаў прадстаўлена на выстаўцы вырабаў беларускіх народных мастацкіх промыслаў, якая адкрылася ў Рэспубліканскім культурна-асветніцкім цэнтры. У ліку яе арганізатараў — Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У распараджэнне менавіта гэтага кіраўніцтва перайшлі нядаўна фабрыкі мастацкіх вырабаў, аб'яднаныя ў Беларускі дзяржаўны канцэрн народных мастацкіх промыслаў.

Як адзначыў кіраўнік спраў Прэзідэнта рэспублікі Іван Ціцянкоў, галоўная ідэя гэтай выстаўкі — сабраць у адным месцы ўзоры вырабаў народных мастацкіх промыслаў Беларусі, каб госці сталіцы маглі атрымаць больш поўнае ўяўленне аб нашых традыцыйных рамёствах. Неабходна шырэй прапагандаваць іх ва ўсім свеце і зарабляць на гэтым валюту. На выстаўцы шырока прадстаўлены пляценне з саломкі і лазы, разьба па дрэве, ткацтва, трыкатажныя і швейныя вырабы, цацкі і лялькі з ільну. Разам з сувенірамі і таварамі народнага спажывання тут экспануюцца прадукцыя паляўнічых гаспадарак і запаведнікаў, вырабы дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў. Напрыклад, прапануюцца зрубы дамоў і дачных домікаў, якія могуць зрабіць для заказчыкаў на працягу сутак. Цана — у межах дзвюх тысяч долараў ЗША, драўніна --адборная. Спажыўца з больш скромнымі запытамі могуць зацікавіць асобныя канструкцыі з дрэва. Па суседству выстаўлены чучалы казуль, драпежных птушак, воўчыя шкуры, рогі аленя, саленні і варэнні, журавіны ў цукры і многае іншае. Усё гэта таксама можна пры жаданні купіць.

Усяго цяпер прадпрыемствы Беларускага дзяржаўнага канцэрна народных мастацкіх промыслаў выпускаюць да чатырох тысяч назваў вырабаў. Пры гэтым з 1991-га па 1993-ці год спаду вытворчасці на фабрыках мастацкіх вырабаў не назіралася, у мінулым годзе яны выдалі прадукцыі на 300 мільярдаў рублёў, а сёлета плануецца павялічыць выпуск мастацкіх вырабаў на 10 працэнтаў.

Віктар КУКЛОЎ, фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛІНФАРМ.

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

## ЯРМАРКА, ЧТО ОТКРЫТАЯ КНИГА...

**Интересные события ожидают истинных почитателей книги на нынешней неделе. С 19 по 21 января в Республиканском выставочном центре будет проводиться II международная книжная ярмарка. Устроители этого мероприятия — Белорусская ассоциация книгоиздателей и книгораспространителей, а также акционерное общество «Международный Книжный Дом» и производственно–коммерческая фирма «Макбел». О целях и задачах проводимой ярмарки корреспондент «Добрага вечара» Анатолий БЕЛОУС попросил рассказать президента Белорусской ассоциации книгоиздателей и книгораспространителей Сергея Вильяновича КУЗЬМИНА.**

– Основная цель намечаемой ярмарки — показать свою, белорусскую, продукцию, посмотреть чужую и заключить деловые контракты по оптовой закупке и продаже, — сказал С.В.Кузьмин. — Уже к сегодняшнему дню в ней изъявили желание участвовать более 300 издательских и книготорговых фирм и предприятий. Помимо белорусской стороны, здесь широко будет представлена книжная продукция России и Молдовы, Украины и Казахстана, стран Балтии. Мы предполагаем, что на площадях выставочного комплекса (а это более 3,5 тысячи квадратных метров) будет представлено свыше 10 тысяч книг. На ярмарке будет организована выставка «Учебная и познавательная книга на Беларуси». Только учебников и учебных пособий здесь будет выставлено более 500 экземпляров. К тому же, 20 января, ближе к полудню, мы планируем проведение «круглого стола» по проблемам и перспективам издания учебной и познавательной литературы. А здесь вопросов накопилось довольно много. В частности, у самого Президента Беларуси вызывали озабоченность характер и направленность некоторых новых учебников для средней школы. Все это и многое другое мы попытаемся обсудить.

В процессе проведения ярмарки намечаем подписать соглашение о сотрудничестве между Белорусской ассоциацией книгоиздателей и книгораспространителей с ассоциацией книгоиздателей из России. Намереваемся провести также презентацию некоторых новых книг. 19 января в 15 часов у нас планируется открытое заседание международного комитета книжных ярмарок: будут обсуждаться вопросы ярмарочного движения стран Содружества. В нашей работе примут участие представители книжных ярмарок из Франкфурта, Лейпцига и Варшавы. С благодарностью хочу отметить, что огромное содействие в организации ярмарки нам оказали Министерство культуры и печати Беларуси, книготорговая фирма «Белкнига» и Центр учебно-методической книги и средств обучения Министерства образования. Кстати, сюда мы бесплатно приглашаем и всех директоров белорусских книжных магазинов.

И последнее. **20 января к часу дня мы приглашаем посетить нашу ярмарку всех жителей и гостей нашей столицы, всех настоящих книголюбов.**

ВІНШУЕМ

Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў узнагароджвае Ганаровай граматай Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў Кісялёву Людмілу Паўлаўну — першага намесніка начальніка ўпраўлення па ахове здароўя Мінгарвыканкама за шматгадовую плённую працу, вялікі ўклад у развіццё спецыялізаванай медыцынскай дапамогі.

* * *

Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў узнагароджвае Ганаровай граматай Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў Шарамета Мікалая Трафімавіча — кіраўніка будтрэста № 4 за шматгадовую плённую працу ў будаўніцтве і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння.

ГРАМАДА

### ЯК БУДЗЕМ ВЫБІРАЦЬ?

Працягваецца падрыхтоўка да выбараў у новы парламент Беларусі. Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў абнародавала план асноўных выбарчых мерапрыемстваў, які, у прыватнасці, прадугледжвае:

вылучэнне прадстаўнікоў у састаў акруговых выбарчых камісій — да 22 лютага; утварэнне абласнымі і Мінскім гарадскім выканкамамі акруговых выбарчых камісій — з 23 па 27 лютага; рэгістрацыю Цэнтральнай камісіяй выбарчых блокаў — да 9 сакавіка; вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета — з 5 сакавіка па 3 красавіка, іх рэгістрацыю — з 4 па 13 красавіка; правядзенне сустрэч кандыдатаў у дэпутаты з выбаршчыкамі — па 13 мая; прадстаўленне спісаў выбаршчыкаў для ўсеагульнага азнаямлення — 29 красавіка; апублікаванне акруговымі выбарчымі камісіямі паведамлення аб выніках выбараў — не пазней, чым на пяты дзень пасля выбараў, да 19 мая.

Павел МЯГКОЎ, БелаПАН.

### АБАРОНІМ РОДНАЕ СЛОВА!

«Пытанне мовы — пытанне жыцця і смерці нацыі», — гаворыцца ў прынятай заяве Беларускага каардынацыйнага камітэта па абароне беларускай мовы. І любое выступленне супраць занядбанага і скалечанага роднага слова камітэт расцэньвае не інакш, як агрэсію супраць усяе нацыі.

У такі цяжкі час усе патрыятычныя сілы, гаворыцца ў заяве, павінны бараніць беларускасць любымі сродкамі. Толькі сумеснымі намаганнямі, зліўшыся ў адзіны грамадскі рух, стварыўшы мясцовыя суполкі і рэгіянальныя камітэты, патрыёты Беларусі, усе, у каго баліць аб ёй душа, здолеюць выратаваць нашу родную беларускую мову.

Камітэт таксама звярнуўся да грамадзян рэспублікі з просьбай паведамляць аб усіх фактах парушэнняў Закона аб дзяржаўнай мове.

Людміла ДРАЗДОВА.

### АДПБ: З КЛОПАТАМ АБ СВАБОДЗЕ ДРУКУ

Падзеі апошняга часу (белыя плямы на старонках газет, вызваленне ад пасад рэдактараў дзяржаўных газет і адмова ў друкаванні недзяржаўным выданням) выканкам партыі аб'яднаных дэмакратаў расцаніў як «масіраваны наступ на друк». Дадзеныя факты сябры АДПБ схільны разглядаць як яшчэ адзін факт згубнасці манаполіі на што б там ні было.

АДПБ абураецца спробамі распраўіцца з недзяржаўнымі выданнямі, лічыць, што дзяржаве, у якой не выконваюцца элементарныя правы чалавека, не месца ў Савеце Еўропы, і заклікае бізнесменаў краіны падтрымаць недзяржаўны друк грашамі, размяшчаючы рэкламу на старонках незалежных газет.

### БПП: НАСПЕЎ ЧАС ПРЫНЯЦЬ ЗАХАДЫ

Савет Беларускай партыі працы, разгледзеўшы сітуацыю са свабодай друку, адзначыў, што на Беларусі сёння «парушаюцца канстытуцыйныя правы грамадзян на свабоднае атрыманне інфармацыі». Спасылаючыся на Канстытуцыю, у якой Беларусь вызначаецца як дзяржава сацыяльна-прававая, БПП лічыць недапушчальным наступ на свабоду друку, расцэньвае вядомыя падзеі як «праяўленне таталітарызму і дыктатарства» і звяртае ўвагу Канстытуцыйнага суда і Вярхоўнага Савета на факты ігнаравання заканадаўчых нормаў. «Патрабуем прыняць адпаведныя захады дзеля абароны праў і свабод грамадзян Беларусі», — падкрэслілі «працавікі».

Максім ГРЭК.

